Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!



НАДЗВЫЧАЙНЫ XII З'ЕЗД СОВЕТАЎ БССР
ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЙ XII СЪЕЗД СОВЕТОВ БССР
אויסערארדנטלעכער XII-טער אלווייסרוסישער סאָוועטן־צוזאַמענפאָר
NADZWYCZAJNY XII ZJAZD RAD BSRR

БЮЛЕТЭНЬ № 3

# ПАСЯДЖЭННЕ ДРУГОЕ (працяг)

Ранішняе, 21 лістапада 1936 г.

**Жуковіч** (Старшыня). Таварышы, у Прэзідыум паступіла прапанова паслаць прывітанне Цэнтральнаму Камітэту большэвікоў Беларусі і яе слаўнаму кіраўніку ордэнаносцу таварышу **Гікало.** (Бурныя, доўганезмаўкаючыя апладысменты. Усе ўстаюць.)

Слова для прапановы мае тав. Дубіна (Апладысменты).

**Дубіна** (чытае) ЦК КП(б)Б.

Тав. **Гікало.**

Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў шле гарачае большэвіцкае прывітанне баявому штабу соцыялістычнага будаўніцтва Совецкай Беларусі—ЦК КП(б)Б на чале з выпрабаваным большэвіком, лепшым сталінцам, тав. **Н. Ф. Гікало.** (Апладысменты).

Народы Совецкай Беларусі разам з усімі народамі Совецкага Саюза з вялікай радасцю абгаварылі і адобрылі праект сталінскай Канстытуцыі—закон соцыялістычнага грамадства, тварцом якога з'яўляецца наш мудры правадыр, наш бацька, наш настаўнік, вялікі геній чалавецтва—**Сталін** (Бурныя апладысменты).

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя, барацьба за правільнае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якую паслядоўна і няўхільна ажыццяўляла КП(б)Б, ператварылі Беларусь—былую калонію рускага царызма—у квітнеючую ордэнаносную Рэспубліку, дзе народы нашы будуюць свае радаснае і шчаслівае жыццё.

Беларускі народ ніколі не забудзе вялікай дапамогі, якую яму аказаў рускі пролетарыят ў яго барацьбе за вызваленне ад эканамічнага, палітычнага і нацыянальнага гнёту.

Беларускі народ удзячны вялікаму Сталіну, мудраму арганізатару нашай барацьбы і тварцу беларускай дзяржаўнасці.

Перамогі ордэнаноснай БССР дасягнуты ў непрымірымай барацьбе з контррэволюцыйнымі нацдэмамі, разгромленымі КП(б)Б на чале з тав. Гікало, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. **Сталіна** (Апладысменты).

У гэтай барацьбе выраслі сталінскія пітомцы—партыйныя і непартыйныя большэвікі. Узмацнілася і пашырылася совецкая дэмакратыя. Советы сталі магутнымі органамі пролетарскай дыктатуры, баявымі праваднікамі ленінска-сталінскай палітыкі.

Нас усіх, партыйных і непартыйных большэвікоў, рабочых, калгаснікаў, усіх працоўных Совецкай Беларусі ЦК КП(б)Б і тав. Гікало выхавалі і згуртавалі ў духу беззаветнай адданасці нашай партыі Леніна—Сталіна, нашаму горача любімаму таварышу **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

Мы памятаем, што жывем у капіталістычным абкружэнні, што ёсць яшчэ асколкі недабітых ворагаў, якія пітаюць звярыную ненавісць да краіны пераможнага социялізма.

Тройчы прэзрэнныя забойцы з трацкісцка-зіноўеўскай тэрарыстычнай банды, ставіўшы сваёй задачай аднаўленне капіталізма ў нашай краіне, прабавалі свае брудныя рукі, абагроныя крывёю незабываемага тав. Кірава накіраваць у сэрца нашай партыі, на яе любімых правадыроў.

Грозная рука пролетарскага суда, выражаючы волю народаў Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік, абязглавіла гэтую подлую фашысцкую гадзіну, і мы добра памятаем указанні нашага настаўніка, нашага правадыра таварыша **Сталіна** супроць благадушша і самаўспакоенасці.

Мы і на далей будзем павышаць рэволюцыйную пільнасць і бязлітасна знішчаць ворагаў народу.

З'езд запэўняе ЦК КП(б)Б і Вас, дарагі тав. Гікало, што працоўныя Беларусі, бязлітасна знішчаючы астаткі ворагаў пролетарскай дыктатуры, аддадуць усе свае сілы, усю сваю волю справе барацьбы за правядзенне ў жыццё сталінскай Канстытуцыі, за далейшае ўмацаванне і развіццё социялізма ў нашай краіне, за перамогу социялізма ва ўсім свеце (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве ЦК КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам тав. Гікало! (Усе ўстаюць. Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве кіраўнік і арганізатар усіх нашых перамог—партыя Леніна—Сталіна! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве правадыр працоўных усяго свету—дарагі і любімы наш **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня)—Дазвольце Вашы апладысменты лічыць за прыняцце тэксту прывітання.

(Галасы з месца: «Прывітанне ад стаханаўцаў нашаму дарагому бацьку **Сталіну!»** (А п л а д ы с м е н т ы). «Няхай жыве наш родны **Сталін,** як майская роза ў зялёным садочку!» (А п л а д ы с м е н т ы). «Няхай жыве лепшы друг беларускага народу, які даў нам заможнае і шчаслівае жыццё—тав. **Сталін!»** (А п л а д ы с м е н т ы). «Няхай жыве XIX гадавіна Кастрычніцкай Рэволюцыі, якая дала працоўным жанчынам і ўсім працоўным Совецкага Саюза вялікую сталінскую Канстытуцыю!» (А п л а д ы с м е н т ы).

 **Жуковіч** (старшыня) Пераходзім да спрэчак па дакладу

тав. **Чэрвякова.** Першае слова мае стаханавец завода «Пралетарый» імя Кірава тав. Бабылёў (а п л а д ы с м е н т ы).

**Бабылёў** (Гомель, завод «Пролетарый», каваль—стаханавец). Таварышы! Кіраўніку Усесаюзнай Комуністычнай партыі большэвікоў таварышу **Сталіну**, кіраўніку Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі таварышу Гікало, Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў перадаю наша рэволюцыйнае, стаханаўскае палкае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, шэсць месяцаў таму назад быў апублікаваны праект сталінскай Канстытуцыі, напісанай вялікім нашым правадыром таварышом **Сталіным.** Гэта была радасная вестка для ўсіх працоўных нашай неабдымнай краіны Советаў.

Сталінская Канстытуцыя мае велізарнае значэнне не толькі для ўсіх працоўных Совецкага Саюза, але і для працоўных усяго свету. Сталінская Канстытуцыя дае ўсе ўмовы для заможнага жыцця працоўных Совецкага Саюза. Яна зацвярджае рэволюцыйныя заваёвы, дае ўсе магчымасці для далейшых дасягненняў, далейшага развіцця стаханаўскага руху, паднящця прадукцыйнасці працы, палепшання якасці прадукцыі і паляпшае нашы матэрыяльныя і культурныя ўмовы жыцця.

Назаўсёды знішчаны жабрацтва, голад, нацыянальная няроўнасць, якія панавалі ў мінулым.

Таварышы, святкуючы два тыдні таму назад XIX гадавіну Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай Рэволюцыі, мы падвялі вынікі велізарнейшых перамог і дасягненняў нашага Совецкага Саюза на соцыялістычным, працоўным фронце.

Таварышы, з вялікай радасцю мы глядзім на тое, як расце, мацнее, пашыраецца соцыялістычнае будаўніцтва, соцыялістычная прамысловасць, расце і мацнее непераможная, слаўная Чырвоная армія, расце і мацнее соцыялістычны паветраны і марскі флот.

Дзякуючы рэволюцыйным заваёвам з кожным годам усё больш і больш расце заможнае жыццё працоўных Совецкага Саюза, з кожным годам усё больш і больш забываецца кашмар мінулага царскага часу, аб якім нават агідна ўспамінаць, агідна іменна таму, што ў стары дарэволюцыйны час рабочы клас за жабрацкае існаванне, за кавалак хлеба ўзбагачаў фабрыкантаў, але сам не бачыў чалавечага жыцця, а толькі і ведаў, што з рання да вечара працаваў. Але не кожны рабочы меў гэту магчымасць. Беспрацоўе душыла рабочы клас.

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя канчаткова вызваліла рабочы клас ад ярма капіталізма. Мы не рабы, мы—свабодныя грамадзяне вялікага Совецкага Саюза. 7 гадзін у суткі мы працуем, а 17 маем свабодных для адпачынку, для вучобы, для культурнага жыцця.

Таварышы, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі на чале з вялікім правадыром таварышом **Сталіным** мы дабіліся велізарнейшых поспехаў, небывалых у гісторыі чалавецтва. Наша краіна з'яўляецца адзінай совецкай краінай на зямным шары. Яна з'яўляецца гордасцю сусветнага пролетарыята. Наша совецкая

краіна бесперапынна расце, квітнее, умацоўваецца ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Не было ў гісторыі чалавецтва такіх дасягненняў і перамог, якія мае Савецкі Саюз. Мы, рабочы клас вялікага Савецкага Саюза, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і яе правадыра таварыша **Сталіна**, будуем соцыялізм, будуем бяскласавае соцыялістычнае грамадства.

Нашы імкненні, нашы задачы—ажыццявіць лозунг партыі і ўрада—перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-эканамічных адносінах. І мы гэты лозунг паспяхова ажыццяўляем.

Год таму назад па ініцыятыве і па прыкладу выдатных герояў—стаханаўцаў і ўдарнікаў мы ўключыліся ў стаханаўскі рух, мы высока паднялі прадукцыйнасць працы на сваім заводзе, павысілі якасць прадукцыі, але мы на гэтым не спыніліся і не спынімся. Мы павінны ісці ўперад да далейшых перамог на нашым соцыялістычным працоўным фронце.

Таварышы, у выніку пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва мы бачым значны рост нашых гарадоў. Вось, напрыклад, горад Гомель за апошнія гады стаў непазнаваемым. У мінулым гэта быў брудны горад, нячысты, некультурны. Зараз Гомель мае новыя фабрыкі і заводы, новыя дамы, магазіны, стаў культурным, чыстым горадам, са значнай прамысловасцю. Наш завод «Пролетарый» з маленькай саматужнай майстэрні ў мінулым ператварыўся ў буйны механічны завод, які выпускае розныя механічныя вырабы. Завод бесперапынна ўмацоўваецца: будуюцца новыя карпусы, новыя цэхі, укараняецца механізацыя вытворчасці, асвайваюцца новыя віды работ.

Некалькі слоў аб сабе. З першых гадоў рэволюцыі, калі наша краіна пасля разбурэння, нанесенага грамадзянскай вайной, пачала аднаўляцца, я ўліўся ў рады будаўнікоў новага соцыялістычнага ладу.

Таварышы, я працую добрасумленна. **Наш завод з года ў год рэзка скарочвае брак.** І гэта было адзначана на нашай канферэнцыі па якасці. Дзякуючы ўважлівым адносінам да работы і дзякуючы таму, што наш урад, наша вялікая Комуністычная партыя ствараюць спрыяючыя ўмовы для жыцця, мы на гэтых дасягненнях не спынімся, і ў далейшым будзем працаваць яшчэ лепш.

У адзнаку новай сталінскай Канстытуцыі, Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Саветаў і VIII Усесаюзнага З'езда Саветаў я бяру на сябе наступнае абавязацельства: працаваць яшчэ больш, працаваць яшчэ лепш і свой вопыт перадаваць другім.

Нягледзячы на тое, што па слабасці здароўя мне прапанавалі перайсці на пенсію, я адмовіўся, я хачу яшчэ быць актыўным будаўніком соцыялізма, я адчуваю, што яшчэ магу прынесці карысць краіне. Завод паслаў мяне на курорт. Падлячыўшыся, я пачаў з новымі сіламі працаваць і сваёй высокай кваліфікацыяй і рацыяналізатарскімі прапановамі дапамагаю заводу па

ўкараненню механізацыі, падняццю прадукцыйнасці працы і выкананню вытворчага плана.

У сваёй брыгадзе я выконваю план на 200%. Таварышы, я заклікаю ўсіх наследаваць майму прыкладу. Таварышы, мы павінны дабіцца такога становішча, каб прадпрыемствы Беларусі і прадпрыемствы ўсяго Совецкага Саюза змагаліся за выпуск добраякаснай прадукцыі.

Няхай жыве вялікая Комуністычная партыя!

Няхай жыве непераможная слаўная Чырвоная армія, яе камандзіры і маршалы Совецкага Саюза на чале з першым маршалам тав. Варашылавым!

Няхай жыве Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў!

Няхай жыве Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў!

Няхай жыве рэволюцыйны народ Іспаніі, які змагаецца супроць крывавага азвярэлага фашызма за сваё вызваленне!

Няхай жыве наш совецкі ўрад!

Няхай жыве сталінская Канстытуцыя!

Няхай жыве вялікі правадыр, тварэц Канстытуцыі, арганізатар прыгожага радаснага жыцця Іосіф Вісарыёнавіч **Сталін!** (гучныя апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае тав. Мініна—калгасніца Чачэрскага раёна (апладысменты).

**Мініна** (калгасніца-стаханаўка Чачэрскага раёна).

Таварышы, я ніколі не выступала і не магу добра гаварыць, а таму скажу каротка.

Я калгасніца калгаса «Май» Глыбочыцкага сельсовета, Чачэрскага раёна. На Ўсебеларускай нарадзе па ўраджайнасці ў сакавіку 1936 года я дала абяцанне т.т. **Гікало, Чэрвякову і Галадзеду** даць 10 цэнтнераў ільну з гектара. Гэтае абавязацельства я перавыканала і атрымала 13,1 цэнтнера ільновалакна з гектара (апладысменты).

Таварышы, каротка спынюся на сваёй рабоце. Я два гады працую ў калгасе па ільну і ў гэтым годзе ўзяла на сябе абавязацельства даць рэкордны ўраджай ільну з вопытнага ўчастка. На гэтым участку я дабілася высокага ўраджаю. Працавала я так: вясною залажыла на ўчастак калійную соль, пасля праз два дні ўгноіла кампостным торфам, курыным памётам і толькі пасля гэтага ўжо ўзорвала зямлю і сеяла лён. Лён хутка рос, толькі марозы яму трохі пашкодзілі. Я тады звярнулася да агранома і запыталася: што рабіць, марозы пашкодзілі ільну. Ён адказаў, што трэба падкарміць лён мінеральным угнаеннем, попелам і паліваць разведзеным вадой курыным памётам. Я так і зрабіла: развяла некалькі бачкоў курынага памёту, дала яму пастаяць два дні, пасля чаго пачала рабіць падкормку ільну. І лён наш пайшоў хутка расці. Два разы мы яго прапалолі.

Надыйшлі жаркія дні, лён стаў хутка паспяваць. Яму не далі доўга стаяць на сонцы і звяно хутка ўбрала яго. Пасля ўборкі я зноў звярнулася да агранома з запытаннем аб месцы расцілу ільну, у сувязі з жаркім надвор'ем. Аграном параіў мне раза-

слаць у нізкіх месцах каля рэчкі, што мы і зрабілі, і пратрымалі яго ў лежцы 19 дзён. Лён выйшаў вялікімі нумарамі—ад 13 да 26.

Нашы калгаснікі зараз спаборнічаюць са мной на атрыманне высокага ўраджаю ільну. З'езду я даю абяцанне, што ў будучым годзе даб'юся не 13 цэнтнераў, а 15 з гектара, і гэтае абяцанне выканаю (а п л а д ы с м е н т ы).

Райком партыі і райвыканком праверылі маю работу і мяне прэміравалі: далі мне 300 руб., патэфон, мэблю і грамату (а п л а д ы с м е н т ы).

У 1936 годзе я таварыша **Сталіна** не ўбачыла, але ў 1937 годзе даб'юся такіх паказчыкаў у рабоце па ільну, каб быць прынятай таварышам **Сталіным.**

Няхай жыве наш любімы дарагі бацька тав. **Сталін!** (Г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня). Паступіла прапанова паслаць прывітанне кіраўнікам Урада Вялікага Совецкага Саюза т. т. **Калініну і Молатаву** (а п л а д ы с м е н т ы).

Слова для прапановы мае тав. Жолудаў.

**Жолудаў** (чытае)

## СТАРШЫНІ СОВЕТА НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ САЮЗА ССР СТАРШЫНІ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА САЮЗА ССР

*Дарагі Вячэслаў Міхайлавіч!*

*Дарагі Міхаіл Іванавіч!*

Вам, бліжэйшым саратнікам вялікага **Сталіна**, кіраўнікам першага ў свеце соцыялістычнага ўрада, Надзвычайны XII З'езд Советаў Беларусі шле свае палкае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

У гэтыя дні мы абмяркоўваем вялікую хартыю правоў чалавека—сталінскую Канстытуцыю. Абмеркаваннеператварылася ў нас у радаснае свята—свята ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, свята творчай соцыялістычнай працы, свята магутнага росквіту культуры народаў, свята таржэства даподліннага рэвалюцыйнага дэмакратызма—совецкай дзяржаўнасці.

Беларускі народ упершыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасць толькі дзякуючы вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі, дзякуючы большэвіцкай партыі, дзякуючы геніяльным правадырам пролетарыята—Леніну—Сталіну. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка стала ордэнаноснай. Гора і нужда—спрадвечныя спадарожнікі беларускага народу, адышлі ў мінулае. Пад сонцам **Сталіна** квітнее шчаслівае заможнае жыццё. Шырокія і неабсяжныя калгасныя палі, багаты іх ураджай.

Ёсць у нас выдатныя соцыялістычныя прадпрыемствы, моцныя

большэвіцкія калгасы, новая сталінская тэхніка, трактары і камбайны, ёсць новыя совецкія людзі, заможныя, культурныя, выхаваныя большэвіцкай партыяй і вялікім **Сталіным,** адданыя ўсёй сваей істотай вялікай нашай радзіме, гатовыя аддаць за яе ўсё сваё жыццё.

Запэўняем Вас, дарагія Вячэслаў Міхайлавіч і Міхаіл Іванавіч, што Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка стаіць несакрушальнай гранітнай цвярдыняй на рубяжы з фашысцкім светам. І калі крывавы фашызм пасмее напасць на нашу любімую радзіму, увесь беларускі народ ад малага да вялікага паднімецца і грудзьмі сваімі абароніць нашу свяшчэнную зямлю.

Няхай жыве совецкі ўрад і яго слаўныя кіраўнікі т. т. **Молатаў і Калінін!**

Няхай жыве соцыялістычная Канстытуцыя і яе геніяльны тварэц наш родны, любімы **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня). Дазвольце, таварышы, лічыць Вашы апладысменты за аднагалоснае прынятцце прывітання (а п л а д ы с м е н т ы).

Зараз роўна 3 гадзіны. Ёсць прапанова на гэтым пасяджэнне спыніць.

**Пасяджэнне зачыняецца.**

# ПАСЯДЖЭННЕ ТРЭЦЯЕ

**Вячэрняе, 21 лістапада 1936 г.**

**Жуковіч** (старшыня) Трэцяе пасяджэнне Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў абвяшчаю адчыненым. Прыступім да спрэчак.

Слова мае тав. Дабравольскі (Лесакамбінат, Бабруйска).

**Дабравольскі**—Таварышы дэлегаты Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, дазвольце ад імя 21000 рабочых Бабруйскага раёна перадаць Вам ад душы гарачае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, я ўважліва слухаў даклад тав. Чэрвякова. Гэты даклад закрануў мае сэрца; мы шчаслівы, што разам з кіраўнікамі партыі і ўрада Совецкай Беларусі сёння абмяркоўваем праект сталінскай Канстытуцыі.

Таварышы, дазвольце Вам далажыць аб працы і жыцці нашага Бабруйскага раёна. Бабруйскі раён на 2 месяцы і 2 дні раней тэрміна выканаў гадавую праграму. Большэвікі—партыйныя і непартыйныя Бабруйскага раёна, пад кіраўніцтвам большэвікаордэнаносца Беларусі тав. **Гікало**, заваявалі першае месца ў прамысловасці БССР.

Пераходны сцяг СНК і ЦК мы будзем моцна трымаць, і я ўпэўнен, што большэвікі Бабруйскага раёна не аддадуць яго нікому. Мы выканаем усё паказчыкі па прамысловасці ў колькасці памножанай на якасць.

Таварышы, на якасці не адаб'ецца, калі мы ў лясной прамысловасці на лесапільнай раме будзем распіліваць 200—400 кубаметраў лесу.

На Бабруйскім лесакамбінаце станкі швецкія. Тэхнічны дырэктар камбіната т. Караткевіч перакантруіраваў станкі з 0,5 на 0,6. Цяпер лесапільныя станкі ў нас маюць совецкае сэрца. Упершыню камбінат на 2 месяцы раней тэрміна выканаў гадавую праграму.

Тав. Рушко паказаў рэкордныя ўзоры працы. Я яго спаборнік, побач з ім працую. Я не верыў у яго нормы выпрацоўкі. Але на камбінат у наш цэх прышоў тав. Чэрнышоў, даў рад указанняў, даў і мне зразумець у чым справа, і я абагнаў тав. Рушко (а п л а д ы с м е н т ы).

Працую я ў лесапільным цэху № 1 на адным станку з моманту яго пуску. У нашай змене 100 чалавек, і ўсе яны стаханаўцы. Брыгада т.т. Адзінцова, Стромскага і Дабравольскага—тры патокі стаханаўцаў. Штодзённа норма выконваецца на 140—150 проц. У сярэднім за кастрычнік месяц я зарабіў 586 руб., столькі ніколі раней не зарабляў. Правільна сказаў таварыш Сталін, што жыць стала лепш, жыць стала весялей.

Таварышы, усё гэта нам дала толькі вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя. XIX гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі я святкаваў у сталіцы БССР г. Менску, сюды на свята мяне, як стаханаўца, запрасіў ЦСПСБ.

Таварышы, нашы рабочыя вельмі добра падрыхтаваліся да раённага з'езда саветаў. На працягу шасці месяцаў працоўныя Бабруйшчыны абмяркоўвалі кожны пункт сталінскай Канстытуцыі непасрэдна на рабочых і калгасных сходах.

Я ўпэўнен у неперcharacterожнай сіле нашай роднай Чырвонай арміі. А калі спатрэбіцца, то я заўсёды гатоў ісці абараняць нашу дарагую радзіму.

Таварышы, я запэўняю XII З'езд Саветаў, што пад кіраўніцтвам нашага ордэнаносца тав. Гікало і раённага камітэта партыі, мы большэвікі Бабруйскага раёна—партыйныя і непартыйныя свае абавязкі выканаем толькі на выдатна. Мы цяпер будзем дабівацца таго, каб наша прадукцыя была высокаякаснай, каб ні адзін спажывец нашай прадукцыі не мог сказаць, што прадукцыя Бабруйшчыны дрэнная.

У нашым лесапільным цэху працуе парторгам Ефрэм Гладышаў. Ён заўсёды пасля сканчэння работы праводзіць з намі гутаркі, пытаецца аб нашых непаладках і адразу-ж на месцы прымае меры да іх ліквідацыі.

Прывяду такі прыклад. Аднойчы перастаў працаваць самаскідацель. Механік заявіў, што самаскідацель больш не будзе працаваць, але прышоў парторг у цэх, заняўся гэтай справай і праз дзесяць хвілін самаскідацель пачаў працаваць. Тав. Гладышаў як парторг цэха сябе цалкам апраўдвае. Гэта надзвычайны чалавек. Гладышава ведае ўвесь Саюз па яго рэкордных паказчыках работы на раме, ён сам рамшчык.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна мы яшчэ больш згуртуемся вакол Ленінскага ЦК, яшчэ больш будзем змагацца за выкананне ўсіх паказчыкаў.

Няхай жывуць нашы дэлегаты Надзвычайнага XII З'езда Саветаў! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве наш кіраўнік ордэнаносец тав. **Гікало!** (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве наш ордэнаносец тав. **Галадзед!** (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве наш любімы, наш родны бацька, мудры правадыр, кіраўнік нашых перамог, вялікі **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).



**Жуковіч** (старшыня). Слова мае тав. Івашкевіч—калгасніца Асвейскага раёна.

**Івашкевіч.** Таварышы, дазвольце мне ад калгаснікаў калгаса імя Калініна Асвейскага раёна перадаць нашым кіраўнікам, ордэнаносцам т.т. **Гікало** і **Галадзеду** большэвіцкае палкае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы, аркестр выконвае туш). Няхай з гэтай высокай трыбуны данясуцца гукі палкага большэвіцкага прывітання любімаму правадыру, другу народаў, роднаму тав. **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, я бязмежна шчаслівa, што з'яўляюся дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў.

Я ўспамінаю сваё мінулае. Да Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі я была няшчаснай, цёмнай, забітай жанчынай, якая не бачыла ні адной светлай мінуты жыцця.

Радзілася я ў Гродзеншчыне, у нетрах белавежскіх балот. Нямала паны і кулакі выпілі крыві ў мяне, бо я была дачка батрака. Бацька мой не меў нават кавалка зямлі. Яго халупка, як гэта кажуць, стаяла на курыных ножках. Дзень і ноч ён працаваў у кулакоў. Ён меў 7 дзяцей. Калі дзеці падрасталі, бацька пасылаў і іх працаваць да кулакоў. З 8-мі гадоў і я пайшла працаваць на кулака-кравапіўца.

У 1915 годзе, у час вайны насельніцтва б. Гродзеншчыны прымушалася ехаць у бежанцы. А хто-ж меў магчымасць ехаць? Мы не мелі свайго каня, ды і бацька быў узяты на імперыялістычную вайну і пакінуў матку з 7 дзяцьмі. Маці маёй прышлося пайсці. І яна ішла, колькі магла ісці з малымі дзецьмі на руках.

Я была ў свайго бацькі самая старэйшая і служыла ў аднаго буйнага памешчыка. Нада мной вельмі здзекваліся. Яго жонка важыла 12 пудоў, а можа і больш (смех), сядзела яна ў шырокім крэсле і мне трэба было адзяваць ёй панчохі і бацінкі, клянчыць перад ёй, цалаваць ёй рукі. Калі ёй не ўгодзіш, яна біла чым папала: каструляй і ўсё што было ў ёй пад рукамі пускала ў работніцу.

У час вайны памешчык выехаў, а я пайшла ў бежанства і выйшла ўрэшце замуж у Асвейскім раёне, выйшла за такога-ж бедняка, які быў мой бацька. Муж мой быў на імперыялістычнай вайне, страціў усё здароўе і памёр у 1929 годзе, пакінуўшы мне ў спадчыну толькі чацвёра малых дзяцей.

У 1930 г. у вёсцы арганізуецца калгас, і я раздзетая, босая, без куска хлеба, з 4-мя малымі дзецьмі іду ў калгас. Адразу стала працаваць сумленна і толькі тут пачалі мяне лічыць за чалавека. У 1935 годзе я выпрацавала 532 працадні (а п л а д ы с м е н т ы).

У 1936 г. да Кастрычніцкіх свят я ўжо выпрацавала 702 працадні. Гэтае вялікае свята сустракала весела і шчаслівa. Не было ў мяне каровы, сёння я маю яе; не было ў мяне свіней, зараз я маю іх. Да свята зарэзала добрага кабана (а п л а д ы с м е н т ы).

(Голас з прэзідыума—«І каўбасы былі на Кастрычніцкія святы»).

Былі і каўбасы. Я мела магчымасць купіць самай добрай мукі і напячы булак. Я мела ўсё, што сёння можа мець наш совецкі грамадзянін.

Таварышы, мне 36 год, але я адчуваю сябе зусім маладой (апладысменты).

(Голас з прэзідыума—«Правільна»).

Я думаю, што мне толькі 18 гадоў, бо я радзілася ў час Кастрычніцкай Рэволюцыі і мая радзіма не там за мяжой, дзе эксплаатацыя, дзе льецца кроў, дзе галеча і голад. Не, мая радзіма тут, у краіне Советаў (апладысменты).

Таварышы, я член ячэйкі Асоавіяхіма, вывучыла я супроцьпаветраную абаронную работу і здала нормы на выдатна. Я спаборнічаю з маім сынам—18 гадовым комсамольцам (апладысменты), але я яго абагнала, ён здаў нормы на добра, а я на выдатна (апладысменты).

Таварышы, я і далей буду працягваць вучобу, хачу яшчэ стаць варашылаўскім стралком (апладысменты). Я вас запэўняю, што я ім буду. Даб'юся і таго, што буду добра ўмець валодаць баявой вінтоўкай, і калі гэта спатрэбіцца, калі пасмее вораг напасці на нашыя свяшчэнныя граніцы, я бязлітасна буду біць яго ў свіное рыла (Бурныя апладысменты).

Таварышы, перада мною зараз стаіць вялікая задача і задачу гэту я павінна выканаць. Я днём і ноччу толькі думаю аб тым, каб мне пабыць у нашай чырвонай сталіцы і пабачыць нашага правадыра. Я дала такое слова ў сваім калгасе, што смерць не павінна каснуцца мяне да таго часу, пакуль я не ўбачу вялікага Сталіна (апладысменты).

Я павінна, я абавязана гэта выканаць таму, што гэта залежыць ад сумленнай працы кожнага з нас.

Таварышы, дазвольце мне на гэтым скончыць.

Дык няхай жывуць кіраўнікі нашай ордэнаноснай Беларусі т.т. Гікало, Галадзед і Чэрвякоў! (апладысменты).

Няхай жывуць нашы чырвоныя пагранічнікі, якія ахоўваюць нашы свяшчэнныя граніцы, як зяніцу вока! (апладысменты).

Няхай жыве наша непераможная партыя большэвікоў—партыя Леніна—Сталіна! (апладысменты).

Няхай жыве на доўгія, доўгія гады наш мудры, наш родны бацька, які так многа клапаціцца аб жанчыне і аб чалавеку, наш вялікі таварыш Сталін! (Бурныя апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае тав. Скабло (апладысменты).

**Скабло**—Дэлегатам Надзвычайнага XII З'езда Советаў—ордэнаноснай Совецкай Беларусі ад стаханаўцаў і рабочых Менскай абутковай фабрыкі большэвіцкае прывітанне! (апладысменты).

Фабрыка імя Кагановіча, якая першай у Беларусі разгарнула стаханаўскія метады работы, прыходзіць да гістарычных з'ездаў советаў, на якіх будзе прымацца вялікая хартыя працоў-

нага чалавецтва—сталінская Канстытуцыя, з вялікімі дасягненнямі. Замест 5 000 пар абутку ў дзень рабочы калектыў дае 7.800 пар абутку. Гэтага павелічэння выпуска прадукцыі стаханаўцы і ўдарнікі дабіліся на аснове аўладання тэхнікай, павышэння сваёй кваліфікацыі, дапамогі адстаючым. На фабрыцы ёсць 38% стаханаўцаў.

Асобныя стаханаўцы ўжо перакрылі тэхнічныя нормы, ўстаноўленыя галіннымі канферэнцыямі. Яны паказалі якія магутныя рэзервы штодзённа выяўляюцца ў нашай соцыялістычнай прамысловасці. Стаханавец Сляпен, які прымяніў новыя метады ў рабоце, дабіўся выканання плана на 250%. Свой вопыт ён перадаў рабочым сваёй брыгады. Рабочыя **Бернштэйн** і **Файн** выконваюць нормы на 200%, а **Фрыдлянд, Менсовіч** і іншыя таксама перакрылі тэхнічныя нормы. Стаханаўцы **Скабло З., Скабло Г., Фельдман** сістэматычна выконваюць нормы на 170—200%.

Апублікаванне праекта сталінскай Канстытуцыі ўліла новыя сілы і бадзёрасць у калектыў нашай фабрыкі, і мы ўзялі на сябе абавязак да 25 лістапада, да дня адкрыцця Надзвычайнага VIII Усесаюзнага З'езда Советаў выканаць гадавы план.

Я ад імя калектыва рабочых нашай фабрыкі з радасцю сёння заяўляю, што мы не толькі выканалі, але перавыканалі план. Гадавы план мы выканалі 15 лістапада (а п л а д ы с м е н т ы) і цяпер змагаемся за тое, каб да канца года даць звыш плана яшчэ 200 тыс. пар абутку.

Пры абгаварэнні праекта сталінскай Канстытуцыі на кватэрах 300 рабочых нашай фабрыкі, мы на жывых канкрэтных фактах бачылі пацверджанне ўсіх пунктаў сталінскай Канстытуцыі.

Права на працу. Ні адна сям'я нашай фабрыкі, як і ўсе працоўныя нашага Саюза, не ведаюць, што такое беспрацоўе і нават хутка забылі-б зусім гэтае слова, калі-б не напаміпала нам аб ім масавае беспрацоўе ў капіталістычных краінах.

Права на адпачынак. З году ў год паляпшаецца арганізацыя адпачынку, скарыстанне штогадовых водпускаў. Толькі ў гэтым годзе звыш 600 рабочых нашай фабрыкі былі накіраваны ў дамы адпачынку, на курорты, у санаторыі. Да 300 дзяцей рабочых нашай фабрыкі выязджалі за горад з дзіцячымі садамі, яслямі, піонератрадамі і школамі ў добрыя сасновыя лясы нашай соцыялістычнай Беларусі. Да 200 рабочых выязджалі адпачываць на дачы.

Права на забяспечанне ў старасці. Нашы рабочыя, якія па старасці не могуць ужо працаваць на вытворчасці, атрымліваюць усё неабходнае для радаснага жыцця.

Права на асвету. Штогод будуюцца сталінскія школы, нашы дзеці ахоплены пагалоўна школамі, шырока разгорнута сетка школ для дарослых, рабочыя нашай фабрыкі ахоплены ўсякімі відамі вучобы. Сярод дзяцей рабочых шмат інжынераў, урачоў, педагогаў, тэхнікаў, якія вучыліся на сродкі нашай соцыялістычнай радзімы.

Нашы рабочыя культурна развіваюцца, выяўляюць свае таланты. Струнны аркестр нашай фабрыкі неаднаразова прэміраван на алімпіядзе, ён атрымаў добрую ацэнку на ўсесаюзным радыёфестывале. На беларускай алімпіядзе мастацкай самадзейнасці гурткі нашай фабрыкі занялі адно з першых месц.

Кожны рабочы нашай фабрыкі выпісвае не менш адной газеты. У бібліятэцы фабрыкі сотні рабочых сістэматычна атрымліваюць літаратуру па пытаннях палітыкі, эканомікі, мастацкую літаратуру.

Сталінская Канстытуцыя замацоўвае ўсе нашы сусветна-гістарычныя перамогі, упершыню ў гісторыі чалавецтва забяспечаны сапраўды правы працоўнага народу.

Праект Канстытуцыі СССР складзен вялікім геніем чалавецтва таварышом Сталіным і выражае думы і жаданні ўсяго перадавога чалавецтва.

Няхай-жа жыве наша радзіма—вялікі і магутны СССР!

Няхай жыве партыя Леніна—Сталіна—арганізатар перамог будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне!

Няхай доўга жыве правадыр і настаўнік працоўнага чалавецтва, тварэц і натхніцель новай Канстытуцыі, які прывёў нас да шчаслівага радаснага жыцця, наш вялікі, любімы **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае праф. **Дарожкін.**

**Дарожкін**—Таварышы, у сталінскай Канстытуцыі, у гэтым гістарычна велізарнейшым дакуменце, якога не бачыў яшчэ свет, запісаны тыя заваёвы, якія атрыманы працоўнымі нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам нашага любімага правадыра і настаўніка—нашага вялікага **Сталіна.**

Вазьміце нашу зямлю. Наша зямля стала абноўленай. Абноўлена яна калгасамі, соўгасамі, машына-трактарнымі станцыямі. Другія людзі сталі. Возьмем мы для прыкладу навуку. Калі раней наша Беларусь не мела ніводнай навукова-даследчай установы, ніводнага вучонага, то цяпер наша ордэнаносная БССР мае 1500 навуковых працаўнікоў, прычым гэтыя людзі ў сваёй большасці з'яўляюцца выхадцамі з рабочага класа, выхадцамі з працоўнага сялянства. Большасць з іх атрымала вышэйшую асвету і стала навуковымі работнікамі ўжо пасля Кастрычніцкай Рэволюцыі. Гэтыя людзі сталі вучонымі нашай краіны пры непасрэднай дапамозе рускіх вучоных, пры непасрэднай дапамозе рускага пролетарыята, пры непасрэдных штодзённых клопатах нашага вялікага **Сталіна.**

Але я не пра гэта хачу гаварыць, таварышы, я хачу адзначыць, што разам з ростам нашага соцыялістычнага будаўніцтва расце і наша навука, расце ў прыватнасці і наша Акадэмія Навук—Акадэмія Навук Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

У той час, калі азвярэлы фашызм знішчае ўсё культурнае, што здабыта чалавецтвам за ўвесь час яго існавання, аб чым яскрава сведчаць хаця-б тыя падзеі, якія адбываюцца цяпер

у Іспаніі, дзе гераічны народ Іспаніі пад кіраўніцтвам сваёй Камуністычнай партыі змагаецца з фашызмам, у нас, у Совецкім Саюзе і ў прыватнасці ў нашай Совецкай Беларусі, навука мае ўсе ўмовы для свайго развіцця, а вучоныя—для сваёй творчай работы.

Возьмем хаця-б нашу Акадэмію Навук як цэнтр беларускай соцыялістычнай культуры. Мы ў Акадэміі Навук пастаўлены ў выключна добрыя ўмовы для сваёй работы. Нашы вучоныя па навукова-даследчай рабоце, у тым ліку вучоныя Совецкай Беларусі, маюць усе магчымасці для сваёй працы: акрамя добра абсталяваных лабараторый, мы маем лабараторыі ў выглядзе буйных прадпрыемстваў, соўгасаў, калгасаў, хат-лабараторый. Я павінен адзначыць, што калі раней мы, навуковыя працаўнікі, да 1936 года неяк павольна, вельмі павольна паварачваліся да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, не так быстра ішлі ў калгас, падчас, шчыра кажучы, некаторыя баяліся калгасаў, то ў 1936 годзе мы крута павярнулі і цесна ўжо звязаліся з калгасамі. Напрыклад, навуковыя працаўнікі-біолагі Акадэміі Навук у 1936 годзе зрабілі больш 200 дакладаў непасрэдна ў калгасах. Нашы 2 навуковых работнікі працавалі на працягу 5 месяцаў у калгасах Барысаўскага раёна бязвыезна, адзін навуковы работнік быў там месяц, я асабіста выязджаў 10 разоў. І пасля гэтага, дзякуючы энергічнай рабоце калгаснікаў Барысаўскага раёна, добраму кіраўніцтву райкома партыі і райвыканкома і нашай дапамозе, мы маем у Барысаўскім раёне такое становішча, што 33 звяны атрымалі ўраджай бульбы, як вам вядома, ад 300 да 500 і 558 цэнт. з га. Гэтая лічба, здаецца, не такая вялікая, але калі вы ўлічыце, што ў нас сярэдняя лічба ўраджайнасці па БССР у 1935 годзе яшчэ складала 112,6 цэнт. з га, то вы ўбачыце, якія велізарныя магчымасці мы маем на шляху далейшага павелічэння ўраджаю, якія велізарныя магчымасці ствараюцца пры цеснай сувязі навукі з вытворчасцю.

Я павінен адзначыць, што работа навуковых працаўнікоў непасрэдна ў калгасах, наша дапамога калгасам не толькі дапамагае калгасу, але мы там самі вучымся, і ў 1936 годзе мы вельмі многаму навучыліся.

Узяць хаця-б такога выдатнага калгасніка нашай ордэнаноснай Беларусі як Мацвея Карпавіча Шэршня—дэлегата Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў.

Я павінен Вам рассказаць гутарку з Мацвеем Карпавічам: Калі бульба пачала паспяваць—а ў гэтым годзе была вялікая жара і цяжка было яшчэ ўстанавіць, ці будзе 500 цэнт. з га ці не—я з сакратаром райкома тав. Майсеевым прыехаў у калгас. Тав Шэршань пытае, ці будзе 500 цэнт. ці не? Я яму кажу, калі не будзе 500 цэнт., дык будзе 400 цэнт. Ён адказвае: павінна быць 500 цэнт., бо калі не будзе 500, мне трэба будзе з калгаса ўходзіць, бо сорамна будзе сустракацца з калгаснікамі, і я свой Барысаўскі раён зганьбую на ўсю нашу ордэнаносную БССР.

Гэта гаворыць аб тым, што барацьба за рэкордныя ўраджаі перарабляе калгасніка, яго свядомасць. І ад такіх калгаснікаў нявольна запальваешся энергіяй яшчэ больш, яшчэ энергічней працаваць.

Я павінен адзначыць, што нашы навуковыя працаўнікі, працуючы ў калгасах Барысаўскага, Менскага і іншых раёнаў БССР сустракалі выключную ўвагу, выключна добрыя адносіны з боку саміх калгаснікаў, з боку раённага партыйнага і савецкага кіраўніцтва. Зараз на з'ездзе сустракаеш старшынь калгасаў, старшынь РВК і ўсе кажуць—калі ласка, прыязджайце да нас, чаму вы да нас рэдка прыязджаеце. Гэта гаворыць аб тым, што самі калгаснікі ўжо выраслі і прад'яўляюць да нас яшчэ больш запатрабаванняў.

Такім чынам, мы маем усе ўмовы для нашай работы.

Мы, навуковыя работнікі, акружаны выключнай увагай, выключнай дапамогай, штодзённым кіраўніцтвам з боку нашага ЦК КП(б)Б, тав. **Данііла Іванавіча Валковіча** і ордэнаносца—кіраўніка большэвікоў БССР тав. **Нікалая Фёдаравіча Гікало** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Нікалай Фёдаравіч Гікало** літаральна сочыць за кожным крокам нашай работы, за поспехамі, выпраўляе нашы недахопы і штодзённа дапамагае.

Мы таксама маем выключную дапамогу і з боку нашага ўрада БССР, **Нікалая Мацвеевіча Галадзеда** і **Аляксандра Грыгоравіча Чэрвякова.**

У гэтым годзе нам, навуковым работнікам, у прыватнасці ў нашай Акадэміі Навук БССР вельмі многа дапамог у сэнсе крутога павароту да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва наш прэзідэнт—акадэмік Іван Захаравіч Сурта.

Адным словам нам, навуковым работнікам, хочацца таксама яшчэ больш працаваць на карысць нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы, вучоныя, вышаўшыя з рабочых, з калгаснікаў, былыя батракі, пастухі і рабочыя маем адну і тую-ж мэту, адну і тую-ж задачу, як і ўсе працоўныя нашай соцыялістычнай радзімы—гэта працаваць далей на карысць яе развіцця.

Няхай жыве наш бацька—тварэц сталінскай Канстытуцыі, які даў нам шчаслівае, радаснае, культурнае жыццё—наш родны, вялікі **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня) Слова мае тав. **Грыгарцэвіч.**

**Грыгарцэвіч** (калгас імя Сталіна Менскага раёна).

Таварышы—дэлегаты Надзвычайнага XII З'езда Саветаў нашай Савецкай Соцыялістычнай Беларусі, сёння я слухаў даклад Старшыні ЦВК БССР т. Чэрвякова. Няма ніводнага кутка, дзе-б праект сталінскай Канстытуцыі не абгаварваўся, няма ніводнага працоўнага, які-б сёння не ведаў аб гэтым велізарным дакуменце, асноўным законе нашых соцыялістычных рэспублік, творцом якога з'яўляецца мудры правадыр—Вялікі Сталін (а п л а д ы с м е н т ы).

Сталінская канстытуцыя з'яўляецца бясспрэчным доказам та-

го, што пролетарыят і працоўнае сялянства былой крывавай царскай Расіі, 19 гадоў таму назад вызваліліся ад ярма капітала, вызваліліся ад памешчыкаў і капіталістаў. На аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідавана кулацтва і арганізаваны буйныя калгасныя гаспадаркі.

Я, таварышы, працую ў адным з калгасаў Менскага раёна Кайкаўскага сельсовета, у калгасе, які носіць вялікае імя, імя **Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна** (А п л а д ы с м е н т ы). Калгас імя Сталіна арганізаван у 1930 годзе з 8 гаспадарак перадавой часткі сялян вёскі Бардзілаўка. Наш калгас на сёняшні дзень яднае 202 гаспадаркі і мае ўжо ў сваім карыстанні пераданых навечна 1578 га зямлі. Калгас у гэтым годзе прарабіў велізарную работу па асушцы балот, якіх у калгасе ёсць больш 500 га.

Усесаюзны інстытут балотнай гаспадаркі, дырэктарам якога з'яўляецца т. Сушкевіч, больш 6 разоў быў у калгасе імя Сталіна, дапамагаў сваімі ўказаннямі, як асушаць балоты і на гэтых балотах сеяць травы, як сеяць зернавыя культуры, каб атрымаць высокі ўраджай. Прафесар Шыперка, навуковы працаўнік Вайцаховіч таксама дапамагалі нам сваімі ўказаннямі, каб балоты зрабіць квітнеючымі. У гэтым годзе калгас асушыў 300 га балот сваімі сіламі (апладысменты). 125 га балот узнялі трактарам «Сталінец», які без затрымак хадзіў па балоту і пераварочваў тарфяную глебу.Ператварэннем балот у квітнеючыя палі канчаткова разбіты кулацкія нацдэмаўскія тэорыі аб тым, што на палях Беларусі складаныя машыны не могуць працаваць, не дадуць ніякай карысці. Машына нам дапамагла балота ўзняць і засеяць на балоце 55 га траў і атрымаць па 450 пудоў добраякаснага сена з кожнага га.

Мы пасеялі на балоце, па ўказанню навуковых работнікаў Балотнага інстытута, зернавыя, пасеялі ячмень і атрымалі 30,3 цэнтн. з га, аўса—28 цэнтн. з га. Такі ўраджай атрыман ў калгасе імя Сталіна Кайкаўскага сельсовета ў гэтым годзе.

У студзені г.г. на Усебеларускай нарадзе па ўраджайнасці я ўзяў на сябе абавязак атрымаць 200 пудоў ячменю з га. На ўсёй плошчы ў 66 га гэтага яшчэ не дабіліся, але на паасобных участках мы мелі па 32 цэнт., значыць гэта абяцанне мы яшчэ поўнасцю не выканалі.

Тав. **Чэрвякоў** у дакладзе сказаў, што мы маем на паасобных участках высокія ўраджаі. Патрэбна арганізаваць работу так, каб у нас ва ўсіх калгасах і соўгасах былі высокія ўраджаі. Гэтага мы безумоўна даб'емся пад кіраўніцтвам нашай комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам нашага вялікага **Сталіна.** Указанні тав. Сталіна аб зборы штогод 7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў бліжэйшыя 2—3 гады мы выканаем. Я ўпэўнен, што наш калгас, які носіць імя **Сталіна,** даб'ецца высокіх ураджаяў.

Я лічу, таварышы дэлегаты З'езда, што нізкую ўраджайнасць трэба будзе таксама разбіць, як мы з вамі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі разбілі ўсіх ворагаў: і трацкістаў, і зіноўеўцаў, і кулакоў, і розных апартуністаў. Нам патрэбны высокі ўраджай, нам трэба мець 7—8 мільярдаў пудоў хлеба штогод. Маю-

чы такую сілу, як комуністычная партыя, маючы такога кіраўніка як тав. **Сталін,** маючы ўсе магчымасці ў сваіх руках, мы з гонарам выканаем указанні таварыша **Сталіна.**

Сёння мы слухалі калгасніцу Асвейскага раёна, якая простымі словамі расказала, як яна жыла раней і як жыве цяпер. Я хацеў-бы сказаць і аб сабе, як я некалі жыў і як жыву цяпер.

Я з зарубежнай Заходняй Беларусі. Тав. **Чэрвякоў** сёння ў дакладзе даў малюнак таго, як там жывуць. Так і я жыў. А зараз я з 1922 года ў калгасе.

Пры дапамозе партыйнай арганізацыі, у 1922 г., будучы яшчэ непартыйным большэвіком, я арганізаваў комуну і працаваў 8 гадоў. Цяпер працую ў калгасе імя **Сталіна** і з гонарам павінен сказаць, што я ўжо не той, якім быў раней. Я сёння з'яўляюся вольным грамадзянінам Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і заяўляю з гэтай трыбуны, што больш 4-х пудоў пшанічнай мукі маю з мінулага года (а п л а д ы с м е н т ы), маю карову, двух свіней, трох авечак. У нашым калгасе ёсць такія калгаснікі, як Савіч Павел Нічыпараў, які з сваёй сям'ёй выпрацаваў больш 700 працадзён і атрымаў па 3 кгр. зернавых на кожны працадзень, бульбы па 10 кгр., грашыма 1 рубель на працадзень. У нашым калгасе няма такіх гаспадароў, у якіх не было-б хлеба, а раней толькі некалькі чалавек зводзілі канцы з канцамі.

Вось чаго мы змаглі дабіцца за 1936 стаханаўскі год.

Няхай жыве Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў БССР!

Няхай жыве сталінская Канстытуцыя—асноўны закон Совецкага ладу!

Няхай жывуць нашы ордэнаносцы тав. тав. **Гікало** і **Галадзед!**

Няхай жыве Старшыня ЦВК БССР тав. **Чэрвякоў!**

Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя, арганізатар вялікіх перамог соцыялістычнага будаўніцтва ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы!

Няхай жыве вялікі, мудры настаўнік калгаснікаў, вялікі **Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!** (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве ленінска-сталінская нацыянальная палітыка!

Няхай жыве вялікая дружба народаў СССР!

Няхай жыве гераічны іспанскі народ, які бязлітасна змагаецца супроць сусветнага азвярэлага фашызма!

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае тав. Медзель.

**Медзель** (фабрыка «КІМ» г. Віцебск).

Таварышы, нашы поспехі па БССР з'яўляюцца ярчайшым фактам правядзення правільнай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Наша фабрыка «КІМ», пабудаваная ў першай пяцігодцы, з'яўляецца вялікім гігантам, на якім працуе каля 8000 чалавек. Работніцы нашай фабрыкі ўпарта вывучаюць тэхніку, павышаюць сваю кваліфікацыю і перавыконваюць новыя нормы.

Скажу аб сябе. Я працую ў сквазной стаханаўскай брыгадзе. Я ніколі не думала, што змагу быць на Надзвычайным XII З'ез-

дзе Советаў. З 10-ці гадоў я працавала хатняй работніцай. Зараз з'яўляюся стаханаўкай-двухсотніцай, замест 15 абслугоўваю 30 аўтаматаў (а п л а д ы с м е н т ы).

Акрамя таго я абучаю работніц на значок ПВХО (супроцьпаветранай хімічнай абароны), мыператвараем фабрыку ў крэпасць абароны краіны. Будучы стаханаўкай, выконваю нагрузку арганізатара Асоавіяхіма. У маёй змене налічваецца 500 членаў Асоавіяхіма.

За 1936 год я ўжо выпусціла 315 значкістаў ПВХО. Я брала на сябе абавязкі ператварыць сваю змену ў крэпасць абароны краіны. У маёй змене ёсць 35 варашылаўскіх стралкоў, 315 значкістаў ПВХО, займаюцца гурткі па падрыхтоўцы і вывучэнню вінтоўкі. З агульнай колькасці работніц змены толькі 25 чалавек не члены Асоавіяхіма.

Але на гэтым я не спынюся. Я буду яшчэ лепш і лепш працаваць, паказваць лепшыя ўзоры работы.

**Няхай жыве наша ордэнаносная** Савецкая Беларусь!

Няхай жыве наш любімы і дарагі таварыш **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня). Прывітаць з'езд прышла дэлегацыя ад піянераў г. Менску (а п л а д ы с м е н т ы, м у з ы к а, д з е ц і с п я в а ю ц ь п е с н ю а б р а д з і м е).

**Піонеры.** Мільён юных піонераў і вучняў, уся моладзь, усё юнацтва ордэнаноснай Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і горада Менска вітаюць Вас, лепшых прадстаўнікоў беларускага народу, сабраўшыхся на Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў.

Мы разам з Вамі першыя словы нашай любві і адданасці перадаем горача любімаму намі правадыру і настаўніку **Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну.**

Товарищ **Сталин** мудрый, бесстрашный,
Товарищ **Сталин**—рулевой страны,
Вручаем Вам, как песню, детство наше,
Мы родине и партии верны.

(Піонерка падае Прэзідыуму кошык з кветкамі, у якім знаходзіцца акцябронак. Акцябраты выконваюць танец. (А п л а д ы с м е н т ы).

Мы нарадзіліся пад шчаслівай зоркай. Гэта зорка мае пяць канцоў—шчаслівая зорка краіны Советаў. Радаснае, шчаслівае дзяцінства ў нашай радзіме. Для нас пабудаваны прыгожыя, прасторныя сталінскія школы. Для нас ў Менску па ініцыятыве **Нікалая Фёдаравіча Гікало** (а п л а д ы с м е н т ы) пабудован вялікі, прыгожы палац піонераў, дзе мы адпачываем, будуем мадэлі, чытаем кнігі і вяселімся (а п л а д ы с м е н т ы).

Наш важаты—двойчы чырвонаштандартны ленінскі комсамол штодзённа клапоціцца аб добрай рабоце звенняў піонерскіх атрадаў і нашых гурткоў. У нас, піонераў Совецкай Беларусі, ёсць 6000 піонерважатых. Мы—шчаслівыя дзеці Совецкай Беларусі

з гордасцю і любоўю паўтараем пісьмо беларускага народу таварышу **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

Агні большэвіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі.
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.
Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў,
Узніме народы нявольных краін.
Усё, аб чым марылі людзі і снілі,
Прыбітыя гнётам, пракляццем старым,
У Совецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.
Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю.
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка ў нас пра цябе.
(а п л а д ы с м е н т ы).

Сталінская Канстытуцыя—гэта наша жыццё.

Яна дае права на працу, права на асвету, права на адпачынак дзецям, дарослым усіх народаў вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Мы добра вучымся ў школах, мы весела і культурна адпачываем і будзем выдатна працаваць на славу нашай радзімы.

Прыгожыя песні складаюць народы Совецкага Саюза аб вялікім сталінскім законе. Вось, што спявае народны пясняр Казахстана—ордэнаносец **Джамбул:**

Я славлю великий сталинский закон.
Закон, по которому радость приходит,
Закон, по которому степь плодородит,
Закон, по которому сердце поет,
Закон, по которому юность цветет,
Закон, по которому служит природа,
Во славу и честь трудового народа.
Закон, по которому вольным джигитам
К подвигам смелым дорога открыта.
Закон, по которому едут учиться
Дети аульные в школы столицы.
Закон, по которому все мы равны
В созвездии братских республик страны
(а п л о д и с м е н т ы).

Няма слоў, каб выразіць веліч нашай радасці за сталінскую Канстытуцыю, якая будзе зацверджана Надзвычайным VIII З'ездам Советаў Саюза ССР. Тысячы піонераў гэту радасць выразілі ў сваёй тэхнічнай і мастацкай творчасці. Сто падарункаў мы прыслалі на выстаўку да Ўсесаюзнага З'езда Советаў. Прыміце дарагія таварышы ў гэты радасны дзень нашы падарункі ад



шчырага сэрца. (Бурныя апладысменты. Дзеці падносяць Прэзідыуму свае падарункі).

Мы просім ад юных удзельнікаў Цэнтральнай тэхнічнай дзіцячай станцыі перадаць падарункі Надзвычайнаму VIII З'езду Саветаў і любімаму **Сталіну** (апладысменты). Калі вырасцем, будзем будаваць не мадэлі, а вялікія самалёты, машыны, камбайны (апладысменты).

Нам радасна жыць і вучыцца, але за такое жыццё дзяцей і дарослых змагаюцца працоўныя іншых краін. Мы ні на мінуту не забываем пра дзяцей барацьбітоў гераічнай Іспаніі. Мы ўсім сэрцам з імі—героямі Іспаніі. Мы будзем ім дапамагаць да поўнай перамогі над фашыстамі. Мы звяртаемся да барацьбітоў за свабодную Іспанскую рэспубліку словамі народнага паэта Таджыкістана—ордэнаносца **Лахуці:**

Примите дар—Испании сыны,
Здесь дар борцам Испании отважным
От ленинской—от сталинской страны
В ней братский пыл и сестринская нежность
И детская любовь заключены.
Дар этот шлют 170 народов,
Что пламенным порывом сплочены.
Мужайтесь братья, в битве против гнета
Вам славные победы суждены.
Сражайтесь и в бою восторжествуйте,
Победы без борьбы кому даны.

(Апладысменты. Піянеры выконваюць масавы танец).

Няхай жыве наша слаўная радзіма—Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік! (апладысменты).

Няхай жыве ордэнаносная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка! (апладысменты).

Няхай жывуць кіраўнікі БССР ордэнаносцы т.т. **Гікало і Галадзед** і тав. **Чэрвякоў!** (апладысменты).

Няхай жыве ВКП(б)!

Няхай жыве вялікі, любімы, родны **Сталін!** (Бурныя апладысменты. Пад марш аркестра і бурныя апладысменты ўсяго зала піянеры пакідаюць зал пасяджэння).

**Жуковіч** (старшыня). Таварышы, прывітаць З'езд прышла дэлегацыя ад вайсковых часцей БВА. (Апладысменты) Аркестр выконвае туш).

Для прывітання слова мае камандзір корпуса камдзіў тав. Сердзіч.

**Сердзіч.** Таварышы дэлегаты з'езда, дазвольце перадаць Вам, а праз Вас усяму слаўнаму беларускаму народу ад байцоў пяхоты, конніцы, ад нашых савецкіх казакаў, ад нашых слаўных лётчыкаў, танкістаў, парашутыстаў і байцоў умацаваных раёнаў, ад камандзіраў і палітработнікаў войск БВА—наша чырвонаармейскае палкае прывітанне. (Апладысменты. Аркестр выконвае туш).

Таварышы, наш з'езд сабраўся і праводзіць сваю работу ў вельмі напружанай міжнароднай абстаноўцы. Фашысты Германіі адкрыта рыхтуюць вайну, перш за ўсё супроць Совецкага Саюза. Італьянскія фашысты вуснамі свайго правадыра Мусаліні не так даўно заявілі, што яны ўзнімаюць антыбольшэвіцкі сцяг. Гэта перш за ўсё сцяг барацьбы з Совецкім Саюзам. Японскія фашысты не скрываюць сваёй падрыхтоўкі вайны супроць Совецкага Саюза і спяшаюцца заваёўваць адну правінцыю Кітая за другой з тым, каб развязаць сабе рукі для вайны супроць нас.

У Іспаніі адбываецца ўзброеная інтэрвенцыя фашысцкіх дзяржаў супроць гераічнага іспанскага народу. Германія, Італія, Партугалія рэпетыруюць на крыві іспанскіх рабочых, жанчын і дзяцей вайну, якую яны збіраюцца пачаць у вялікім масштабе.

З гэтай трыбуны мы выказваем сваё гарачае, братэрскае прывітанне іспанскім братам, кіраўнікам гераічнай барацьбы іспанскага народу і комуністычнай Іспаніі (апладысменты).

Няхай памятае іспанскі народ, што самыя гарачыя сімпатыі да яго барацьбы носіць у сваім сэрцы кожны чырвонаармеец нашай слаўнай Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі (апладысменты).

Таварышы дэлегаты з'езда, Вы, як гаспадары нашай зямлі, маеце права спытаць у Чырвонай арміі, ці ўсё яна зрабіла, каб сустрэць надыходзячую небяспеку. Я ад імя войск Беларускай Вайсковай акругі дакладваю Надзвычайнаму XII З'езду Советаў Беларусі, што ў нас няма такога чырвонаармейца ці начальніка, які-б не разумеў усю напружанасць абстаноўкі і небяспеку вайны, няма ні аднаго байца і камандзіра, які не быў-бы гатовым афяраваць сваё жыццё за нашу вялікую радзіму. Наша армія, якая з'яўляецца аплотам міру, непакладаючы рук працуе на тым, каб сакрушальна сустрэць ворага. І таварышы, калі вораг паспрабуе на нас напасці, у нашага пагранічнага сталба ён будзе разгромлены, а на яго тэрыторыі канчаткова будзе знішчаны (апладысменты).

За апошнія гады баявая моц нашых часцей БВА пад кіраўніцтвам Камандарма І ранга т. **Убарэвіча,** буйнейшага ваеннага арганізатара і таленавіцейшага палкаводца, невымяральна вырасла. Народны Камісар Абароны—маршал Совецкага Саюза тав. **Варашылаў** (апладысменты) даў добрую ацэнку вайскам БВА на акруговых манеўрах, праведзеных ў складанай аператыўна-тактычнай абстаноўцы, выкарыстаўшых тэхніку вялікіх танкавых, авіяцыйных, артылерыйскіх і авіядэсантных сродкаў. Ён лічыць, што галоўнае кіраўніцтва манеўрамі, камандзіры і штабы часцей Беларускай Вайсковай акругі не толькі добра справіліся з арганізацыяй вельмі складаных манеўраў у аператыўных і тактычных розыгрышах, але паказалі далейшы рост у мастацтве кіравання сучасным боем, усімі відамі зброі.

Але мы разумеем, так нас вучыць наш любімы Нарком тав. **Варашылаў,** што заспакайвацца, зазнавацца—гэта значыць ісці назад. Я вас завяраю, што Чырвоная армія, нашы часці пад кіраўніцтвам вялікага пролетарскага палкаводца, горача любімага

нашага Наркома, бліжэйшага саратніка тав. **Сталіна,** правадыра Чырвонай арміі тав. **Варашылава** будуць ісці ўсё далей і далей наперад (б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

У нас, таварышы, для гэтага ёсць ўсё неабходнае і перш за ўсё вялізарнейшая адданасць справе нашай партыі, вялікаму Сталіну ўсіх байцоў, камандзіраў, палітработнікаў БВА, актыўная большэвіцкая работа партыйных арганізацый, комсамола, паліторганаў. Акрамя таго, мы акружаны вялікімі клопатамі і любоўю слаўнага беларускага народу.

Вы памятаеце манеўры гэтага году? Гэта было сапраўднае яднанне калгаснікаў і рабочых са сваёй роднай любімай Чырвонай арміяй. Вялізарнейшую падтрымку, увагу і любоў да часцей БВА аказвалі і аказваюць ЦК КП(б)Б, усе большэвікі, Совецкі Ўрад Беларусі на чале з нашымі слаўнымі ордэнаносцамі таварышамі **Гікало і Галадзедам** (б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, З'езд павінен абгаварыць і прыняць сталінскую Канстытуцыю, якая яшчэ больш умацуе вялікую магутнасць нашай краіны. Не можа быць ніколі пераможана краіна, у якой няма галечы, у якой дзяржавай гарантуецца праца, адпачынак, асвета, дзе кожная кухарка кіруе дзяржавай, дзе працоўны чалавек шчасліва, свабодна жыве. Ніякая сіла не можа пахіснуць гранітнай магутнасці нашай краіны. Але патрэбна велізарная пільнасць, свяшчэнная, непрымірымая ненавісць да ворагаў працоўнага народу і ў першую чаргу да прэзрэнных фашысцкіх банд-трацкістаў. Яны, гэтыя агенты Гітлера ў нашай краіне, ёсць надзея контррэволюцыйнай буржуазіі. Няма такой мярзоты, на якую-б не пашлі трацкісты. Сёння газеты нам паведамляюць аб новых злачынствах трацкістаў. Яны травілі газам совецкіх рабочых, вялі шкодніцкую работу. Гэтыя нягоднікі спрабавалі адняць ад нас самае дарагое і каштоўнае, што мы маем—нашага роднага Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў. Я ад імя войск БВА выражаю велізарнейшы гнеў і ненавісць да дзейнасці гэтай гнуснай трацкісцкай банды. Яны павінны быць і будуць вылаўлены ўсе да аднаго і знішчаны. Гэтага патрабуюць перш за ўсё інтарэсы перамогі ў надыходзячай барацьбе. Гэтыя нягоднікі ёсць прамыя шпіёны, здраднікі нашай справы і іх трэба знішчыць, як знішчаюць ворага на полі бітвы.

Дазвольце мне закончыць маё прывітанне выражэннем нашай вялікай любві і адданасці бацьку працоўнага народу, правадыру і другу—таварышу **Сталіну**—(б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы), які вядзе нас ад перамогі да перамогі і будзе весці на страх ворагам да далейшага ўмацавання магутнасці нашай дзяржавы.

**Сталін**—гэта наш пераможны сцяг.

**Сталін**—гэта заможнае, калгаснае жыццё.

**Сталін**—гэта наша магутная Чырвоная армія.

**Сталін**—гэта наша новая, адзіная ў гісторыі для працоўнага народу Канстытуцыя.

**Сталін**—гэта адзінства, моц, сіла нашай Комуністычнай партыі.

І калі ворагі на нас нападуць, то на іх ўзнімецца ўвесь наш

працоўны народ, узброены танкамі, гарматамі, самалётамі і пераможным сцягам у баю будзе **Сталін** (бурныя апладысменты).

Няхай жыве наша слаўная большэвіцкая Комуністычная партыя, правадыр і арганізатар нашых перамог—вялікі, мудры, любімы **Сталін!** (бурныя апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня). Есць прапанова паслаць прывітанне правадыру Чырвонай арміі, першаму маршалу Совецкага Саюза **Кліму Ефрэмавічу Варашылаву** (бурныя апладысменты).

Слова для прапановы мае старшыня Полацкага акрвыканкома тав. Свірыдаў.

**Свірыдаў** (чытае)

Правадыру Чырвонай Арміі, першаму маршалу Совецкага Саюза **Кліменцію Ефрэмавічу Варашылаву**

Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў шле Вам і ў Вашай асобе нашай магутнай і роднай Чырвонай арміі гарачае прывітанне ад беларускага народу.

Наш з'езд сабраўся для таго, каб падагуліць рэзультаты ўсенароднага абмеркавання праекта сталінскай Канстытуцыі.

Увесь беларускі народ аднадушна і безагаворачна адобрыў праект сталінскай Канстытуцыі вялікага Совецкага Саюза.

Няма слоў, каб выразіць захапленне, з якім беларускі народ сустрэў гэты выключны гістарычны дакумент, у якім яскрава запісаны ўсе гіганцкія заваёвы нашай радзімы, дасягнутыя пад геніяльным кіраўніцтвам Леніна і Сталіна.

На велізарных рубяжах нашай краіны стальной непераможнай сцяной стаяць слаўныя байцы Чырвонай арміі: выдатныя танкісты, меткія артылерысты, храбрыя кавалерысты, непераўзыйдзеныя адважныя сокалы нашай радзімы—чырвоныя лётчыкі, любімыя падводнікі, баявыя чырвонафлотцы, гераічныя пагранічнікі, якія ахоўваюць мірную працу народаў СССР і велізарнейшыя перамогі соцыялізма.

Наша краіна пад кіраўніцтвам таварыша **Сталіна** стала буйнейшай індустрыяльнай краінай з магутнай ваеннай прамысловасцю, якая дае і можа даць столькі аэрапланаў, танкаў, караблёў, гармат, колькі будзе патрэбна для таго, каб разбіць ворага, які папрабуе напасці на нашу квітнеючую радзіму.

Пад кіраўніцтвам таварыша **Сталіна** мы зрабілі непрыступнымі і заходнія і далёка-ўсходнія граніцы нашай радзімы і гэта дало нам магчымасць пазбегнуць да гэтага часу вайны.

Мы стаім за мір і адстойваем справу міру, аднак, як вучыць працоўных таварыш **Сталін**, выбар не заўсёды залежыць ад нас. Фашысцкія ачагі падрыхтоўкі да вайны працуюць поўным ходам і ў Еўропе і на Далёкім Усходзе.

Рэакцыя вострыць свае клінкі, яна хоча патапіць у крыві гераічны іспанскі народ, фашысты шалёна рыхтуюць новую імперыялістычную бойню.

Прэзрэнны і азвярэлы фашызм сее вецер—ён пажне рэволюцыйную буру.

Нашы задачы ў гэтых умовах ясны:

«Ні адной пядзі чужой зямлі не хочам, але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддадзім нікому» **(Сталін).** (А п л а д ы с м е н т ы).

Мы па ранейшаму, як справядліва гаварылі Вы, таварыш Варашылаў, хочам і павінны «перамагаць малой крывёю». І калі вораг пасмее сунуць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод—мы дадзім яму сакрушальны адпор і будзем дабіваць яго на той тэрыторыі, адкуль ён пасмее нарушыць мірную працу народаў нашай соцыялістычнай радзімы. (А п л а д ы с м е н т ы).

Манеўры войск Беларускай вайсковай акругі яскрава паказалі, як вяліка і бязмежна любоў працоўных Беларусі да нашай роднай Чырвонай арміі і як цесна яднанне совецкага народу са сваёй арміяй.

Кожны завод, кожны калгас мы ператворым у непрыступную крэпасць абароны нашай краіны.

З'езд яшчэ раз горача вітае Вас і заяўляе, што ўвесь беларускі народ разам з усімі народамі Совецкага Саюза і з Чырвонай арміяй грудзьмі стане на абарону заваёў Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі, запісаных у сталінскай Канстытуцыі, на абарону нашага шчаслівага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Няхай жыве наш родны таварыш **Сталін!**

Няхай жыве наша гераічная Чырвоная армія і яе палкаводзец—першы маршал Совецкага Саюза таварыш Варашылаў! (Б у р н ы я д о ў г а н е з м а ў к а ю ч ы я а п л а д ы с м е н т ы).

(Галасы з зала: «Няхай жыве доблесная Чырвоная армія! У р а!» (А п л а д ы с м е н т ы. К р ы к і «У р а!»), «Няхай жыве першы маршал Совецкага Саюза тав. **Варашылаў!»** «У р а!» (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы, якія пераходзяць у авацыю. Крыкі «У р а!». Дэлегацыя войск БВА пад звукі марша выходзіць з зала).

**Жуковіч** (старшыня). Пераходзім, таварышы, да спрэчак.

Слова мае калгасніца **Дабрыцкая.**

**Дабрыцкая** (калгасніца калгаса «Ударнік», Барысаўскага раёна). Таварышы, ад імя калгаснікаў і калгасніц калгаса «Ударнік» Барысаўскага раёна дазвольце перадаць нашым дарагім правадырам, нашым ордэнаносцам—т.т. **Гікало** і **Галадзеду** і тав. **Чэрвякову** шчырае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, я хачу сказаць пра свой калгас. Наш калгас арганізаваўся з беднякоў, але пралезлі ў яго і некалькі кулакоў, якія перашкаджалі нам у рабоце. Мы здолелі пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі даць ім адпор, змаглі іх разграміць і змаглі пабудаваць соцыялістычнае калгаснае жыццё. На нашых палях гудуць трактары, у нашым калгасе грымяць машыны, на якіх працуюць нашы калгаснікі—стаханаўцы. Стаханаўскія звенні дабіліся добрага ўраджаю—500 цнт. бульбы, 32 цнт. ячменю.

Я працую ў жывёлагадоўчай брыгадзе. У 1936 г. узяла абавязак дабіцца 1000 літраў удою малака з каровы—і дабілася. Мы ў

гэтым годзе атрымалі вялікую колькасць збожжа. Выпрацавала я 500 працадзён і атрымала авансам 500 кілограмаў хлеба. Наша сям'я выпрацавала больш 1000 працадзён і атрымала 16 тон бульбы.

Няхай жыве наша Чырвоная армія!

Няхай жыве стаханаўскі рух!

Няхай жыве наш любімы правадыр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, які вядзе нас па правільнаму шляху, які даў нам вясёлае калгаснае жыццё! (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае народны паэт Рэспублікі Янка Купала (а п л а д ы с м е н т ы).

**Купала**—Дарагія таварышы, вітаючы Надзвычайны XII З'езд Советаў Совецкай Беларусі і жадаючы дэлегатам поспехаў у іх адказнай рабоце перад нашым народам, дазвольце мне таварышы прачытаць свой верш. Верш будзе гаварыць аб тым, аб кім былі нашы думкі ўчора, аб кім мы думаем сёння, аб кім будзем думаць пакуль будзем жыць на свеце. Я гэты верш прысвяціў Вялікаму **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

## ТАБЕ, ПРАВАДЫР...

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход...
(З пісьма беларускага народу Вялікаму **Сталіну**)

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Бо хто калі думаў, што я жыці буду
Як птушка, як вецер, над нівай квяцістай
І дзівам дзівіцца вялікаму цуду,
Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.

Што ты, правадыр, нібы яснае сонца,
Мне вочы адкрыеш на землі і неба...
Свяціся-ж ты, сонца, ў маё век ваконца
Вітаю цябе, я і соллю і хлебам.

Выходзяць на поле плугі,
Узнімаюць плугі дзірваны,
Ні пана няма, ні слугі,
Не гоняць **народ** бізуны.
Зярняты свабодны сявец
З сяўні сее ў пульхны загон.
Махае касою касец,
Пазбыўшы **галодны** прыгон.

Шасцяць у калоссі сярпы,
Сцяною дабро залягло,
Кладуцца снапы ў снапы,—
Такога жніва не было.

Звініць песня ў полі, звініць,
Уторыць сярпу і касе,
Бурліцца вадзіца з крыніц,
Купаецца сонца ў расе.

Цвіце, каласіцца мой край,
Ці сонейка захад, ці усход,
Спявай, маё шчасце, спявай!
Спявай, беларускі народ!

* * *

Табе, правадыр, мае песні і думы
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Зірнуць-жа на годы, на час мой мінулы,
На край, адкуль веяла цемрай, трывогай,
Дзе люд катавалі ў раздроб і агулам,
Дзе блукала крыўда ўтаптанай дарогай.

Туман засцілаў людзям душы і вочы,
З туманаў тарчэлі гарбатыя плечы,
І думаў—канца не дазнаць гэтай ночы,
І думаў—не зведаць шляхоў чалавечых.

Ты мудры прышоў правадыр:
Апалі туманы, імгла,
Па свеце і ўдоўжкі і ўшыр
Шчаслівая слава пашла.

З туманаў, з імглы, з цемнаты
Паўстала краіна мая,
А быў-жа туман той густы,
Была-ж доля—злая змяя!

Паўстала радзіма. Замок
Няволі зламала навек,
Надзела з пралесак вянок
Спявай, беларускі народ!

Глядзіш—для яе, маладой,
Ткуць кросны атласы, шаўкі,
Паважнаю ходзіць хадой,
Шуршаць залатыя пяскі.

Цвіце, каласіцца мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход,
Спявай, маё шчасце, спявай!
Спявай, беларускі народ!

* * *

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Што гэткае ўстане жыццё прада мною
Маё і маёй раскаванай радзімы,
Што справы тваіх дум адна за адною
Так зменяць удала мне вёснамі зімы.

Глядзяць мае вочы і вокала бачаць,
Як дзіва за дзівам ідзе ў нашы хаты,
І слухаюць вушы гул песен юначых,
І цешыцца сэрца з вялікага свята.

Іскрыцца пад молатам сталь,
А молат не біў так калісь.
А гордыя сокалы ўдаль...
А гордыя сокалы ўвысь...

Па моры плывуць караблі,
Плывуць паміж рыфаў і скал,
А рэчкі іначай ляглі,
А лёг за каналам канал.

Дзе вечная пустка была,
Там горад паўстаў і расце,
А стужкай чыгунка лягла,
Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.

Агні, аганькі, дзе зірнеш,—
Не страшны канавы і вір...
То свецяць, не знаючы меж,
Паходні твае, правадыр!

Цвіці-ж, каласуйся, мой край
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

* * *

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Тваіх, правадыр мой, законаў асновы,
Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы,
Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы,
Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.

Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні,
Законы-ж твае, нібы светач нязгаслы,
Шляхі асвятляць будуць светлым імкненнем,
Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.

Шчаслівы набліжыцца век,
І над чалавекам ужо
Не будзе стаяць чалавек
Гадзюкаю, п'яўкай, смаўжом.

Не стане тых меж і граніц,
Што дзеляць народы сабой,
Заціхнуць гарматы сайніц,
Не ўгноящца нівы крывёй.

Не будзе, не будзе тады
Вайны, калатні між людзей;
Дзяўчына, юнак малады
Не зложыць без часу касцей.

На шчасце, на радасці ўзлёт
Збуцвелы разваліцца тын,
Адчыняцца дзверы варот
Да працы, да веды вышынь.

Цвіці-ж, каласуйся, мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

* * *

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы...

Што яваю станецца сон мільёнаў,
Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш,
Абсееш пасевам жывучым загоны
І сцежкі намеціш да сонца і зораў.

На небе—шлях млечны, на небе—вясёлкі,
На гонях красуе пшаніца і жыта...
Бягуць, не спыняюцца думкі—саколкі
К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!

На сход, незвычайны свой сход,
Да новых нявіданых дзён
Ідзе наш савецкі народ
З далёкіх і блізкіх старон.

Ідзе, ўвекавечыць ідзе
І долю і праўду сваю,
Каб воля жыла ў грамадзе
І цешыла вольных сям'ю.

Засядае народ ў Крамлі
Кліч кінуць на цэлы бел-свет,
Пацвердзіць для роднай зямлі
Свой сталінскі вечны завет.

Кліч пойдзе аб сходзе да хат,
За тыя капцы, рубяжы,
Дзе путы валочыць мой брат,
Дзе значаць дарогу крыжы.

Цвіці-ж, каласуйся, мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

(Апладысменты)

**Жуковіч** (старшыня). Слова мае тав. Кедрава (Аршанскі раён).

**Кедрава.** Таварышы, дазвольце перадаць З'езду ад працоўных Аршаншчыны шчырае прывітанне (апладысменты).

Я калгасніца калгаса імя Карла Маркса Гальцэўскага сельсовета. Працую ў калгасе з 1931 года.

Да калгаса жыла вельмі дрэнна. З 1923 года засталася ўдавою з 3-мя дзяцьмі і старой маткай; жыць было вельмі цяжка.

Калі ўступіла ў калгас, стала працаваць свядома, не спадзяваючыся ні на каго, толькі на сваю працу і з года ў год маё жыццё стала паляпшацца. У 1935 годзе мяне запрасілі ў Менск на злёт ільнаводаў як ударніцу. Потым вызначылі мяне ад нашага раёна ў Маскву на нараду ільнаводаў. Убачыць нашых правадыроў у чырвонай сталіцы—гэта было для мяне вялікім шчасцем. Там сядзела я ў чацвёртым раду і бачыла таварыша Сталіна. Я ўпэўнілася, што т. Сталін вялікую ўвагу ўдзяляе працоўнай жанчыне—работніцы і калгасніцы. Мяне ў Маскве ўзнагародзілі ордэнам «Знак почета» (апладысменты).

Пасля з'езда нашы партыйныя і совецкія кіраўнікі раёна прэміравалі мяне мэбляй, прывялі маю хату ў культурны выгляд. Цяпер я жыву шчаслівым, вясёлым жыццём. Я працую і зарабляю добра ў калгасе. Я маю карову, цёлку, маю 3-х добрых кабаноў, з іх адзін зараз вагой ў 18 пудоў, маю 12 штук гусей, 9 штук качак і 16 курэй (апладысменты).

Мне 37 гадоў, але я не думаю, што мне 37 год, а думаю, што мне толькі 20 гадоў, бо я жыву шчаслівым і радасным жыццём (апладысменты).

У маіх бацькоў было 8 дзяцей—3 дзяўчыны і 5 хлапцоў, і мы ўсе батрачылі. Цяпер усе мае браты працуюць на вытворчасці.

Мой сын вучыцца ў Маскве, астатнія вучацца ў сярэдняй школе.

Хачу, каб дзеці мае былі прафесарамі (апладысменты).

Няхай жыве Комуністычная партыя!

Няхай-жа жыве наш любімы правадыр таварыш **Сталін!** (апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня) Слова мае прафесар Марзон.

**Марзон** (Віцебск) Таварышы, горача вітаю вас ад прафесароў, навуковых работнікаў і дактароў горада Віцебска (апладысменты).

Сталінская Канстытуцыя жыве ў нашых сэрцах, у мазгу, ва ўсей нашай істоце, бо ў ёй заключаецца мудрасць нашага вялікага Сталіна, бо яна з'яўляецца вынікам рэволюцыйнай барацьбы працоўных, адлюстраваннем ўсяго нашага соцыялістычнага жыцця.

Наша краіна пакрылася густой сеткай вышэйшых, сярэдніх і пачатковых школ. У нас ліквідавана непісьменнасць. У адным толькі Віцебску ёсць 4 вышэйшых навучальных установы. Два гады таму назад па рашэнню нашай партыі і ўрада адчынен у Віцебску Медыцынскі інстытут. На працягу 2-х гадоў Медыцынскі інстытут выпускаў больш 100 урачоў.

Як паказвае жыццё, нашы ўрачы апраўдалі сваё званне. Мы, рыхтуючыся да XII Усебеларускага і VIII Усесаюзнага З'ездаў Советаў далі абяцанне працаваць яшчэ лепш над выхаваннем сапраўдных совецкіх урачоў. Кожны з нас адчувае, што ўсе дасягненні ў соцыялістычным будаўніцтве, у галіне навукі і тэхнікі

атрыманы толькі дзякуючы кіраўніцтву нашай Комуністычнай партыі, дзякуючы кіраўніцтву і клопатам нашага вялікага дарагога таварыша **Сталіна** (а п л а д ы с м е н т ы).

Вучоныя нашай краіны адчуваюць сябе шчаслівымі і вольнымі. Навука ў Совецкім Саюзе служыць інтарэсам працоўных, на карысць соцыялізма. Я ніколі не марыў у мінулым быць прафесарам і толькі дзякуючы Совецкай уладзе, якая цэніць людзей, працуючых на карысць нашага соцыялістычнага будаўніцтва, я стаў прафесарам.

Абмяркоўваючы сталінскую Канстытуцыю, мы яшчэ больш бачым усю веліч нашай соцыялістычнай сапраўднасці, дальназоркасць і мудрасць таварыша Сталіна, яго клопаты аб чалавеку.

Хочацца крыкнуць на ўвесь свет: мы ўсе працоўныя пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і нашага дарагога правадыра таварыша Сталіна, як адзін чалавек, у любую мінуту гатовы стаць на абарону сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Няхай жыве наш вялікі правадыр дарагі таварыш Сталін! (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня) Слова мае тав. **Захарэвіч**—стаханаўка Нова-Барысаўскага шклозавода імя **Домбаля.**

**Захарэвіч.** Таварышы, дазвольце мне перадаць XII Усебеларускаму З'езду Советаў ад імя рабочых Нова-Барысаўскага шклозавода палкае стаханаўскае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Я на заводзе з'яўляюся стаханаўкай, майстрам брыгадзірам, выконваю сваю вытворчую праграму на 150 процантаў (а п л а д ы с м е н т ы).

Завод наш за 10 месяцаў выканаў вытворчую праграму на 113 проц. Рабочыя нашага завода сустрэлі Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў выкананнем гадавой праграмы.

Дзякуючы вялікаму любімаму нашаму бацьку і настаўніку таварышу Сталіну (а п л а д ы с м е н т ы) жыць стала лепш, жыць стала весялей. Жывём мы радасна, весела і заможна.

У гэтым годзе на нашым заводзе добра абсталявалі летні парк, завадскую сталоўку, ленінскі куток. Таксама паднялі якасць вучобы ў школах непісьменных і малапісьменных, тэхнічнай вучобы, у вячэрніх школах.

Я запэўняю XII Усебеларускі З'езд Советаў, што пад кіраўніцтвам вялікай Комуністычнай партыі і таварыша Сталіна мы яшчэ больш разгорнем соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Няхай-жа жыве наша Усесаюзная Комуністычная партыя!

Няхай жыве наш любімы вялікі таварыш **Сталін!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Жуковіч** (старшыня) Слова мае тав. Кузняцова.

**Кузняцова** (Загадчык Гарадскога аддзела народнай асветы, Менск). Таварышы, пры абмеркаванні праекта сталінскай Канстытуцыі яшчэ і яшчэ раз многанацыянальныя народы нашага Совецкага Саюза выражаюць глыбокую любоў і адданасць творцу Канстытуцыі—тав. Сталіну (а п л а д ы с м е н т ы).

Асаблівую любоў і адданасць таварышу Сталіну выражаюць працоўныя Совецкай Беларусі, якія пры яго непасрэднай дапа-

мозе з цёмнай, забітай, адсталай краіны ператварылася ў магутную квітнеючую Совецкую рэспубліку.

Тав. Гікало сказаў: «Сталінская Канстытуцыя гэта трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы якой беларускі народ падняўся з цёмнага мінулага да самых вышынь соцыялізма».

Таварышы, чым была Беларусь у мінулым?

Яна была цёмнай, забітай, разгромленай царызмам, разгромленай жандармамі, купцамі, абшарнікамі. Раней мы мелі ў Менску ў былым купецкім, чыноўнічым, брудным горадзе ўсяго 4300 навучаючыхся; 60% насельніцтва г. Менску былі зусім непісьменнымі.

Хто мог вучыцца раней у сярэдняй школе? Там вучыліся купецкія сынкі, сынкі памешчыкаў, гандляроў і буйных чыноўнікаў, сынкі, бацькі якіх мелі маёнасны цэнз не менш 10 тыс. рублёў.

А якія былі здзекі над нацыянальнымі меншасцямі і ў прыватнасці над яўрэйскім насельніцтвам! Мы ўсе з вамі ведаем тую процантную норму, якая існавала для яўрэяў ў сярэдняй і вышэйшай школе. Зразумела, што дзеці яўрэйскай беднаты не маглі папасці ў школу, а там вучыліся дзеці купцоў, дзеці гандляроў, дзеці буйных чыноўнікаў.

Таварышы, я не так даўно гаварыла з адным служачым, які прабаваў папасці ў камерцыйнае вучылішча, якое было на тым месцы, дзе зараз стаіць квітнеючы Універсітэцкі гарадок. Ад яго патрабавалі ўнесці пры паступленні 1000 рублёў, якіх ён не ўнёс, бо яму недзе было іх узяць.

У гарадское вучылішча таксама не лёгка было папасць. Туды пападалі найбольш заможныя, якія маглі плаціць 15—20 рублёў у год за навучанне.

Для беднаты заставаліся так званыя царкоўна-прыходскія школы, а для яўрэйскай беднаты—талмуд-тора, дзе над дзецьмі здзекаваліся, як хацелі, дзяцей выпускалі зусім непісьменнымі, бо самі настаўнікі былі непісьменныя.

Старая школа прыгнятала ўсё лепшае, што было ў дзіцяці. Прынцыпам выхавання ў старой школе было выхаваць раба, чалавека, паслушнага царызму.

Нацыянальных школ не было. У гімназіях, прагімназіях, так званых гарадскіх начальных вучылішчах і іншых школах навучанне вялося на рускай мове. Дзеці ненавідзелі старую школу. Дзеці часта ненавідзелі настаўнікаў. Сумленныя настаўнікі, якія хацелі даць дзецям веды, зрабіць з іх людзей, пры царызме мала маглі чаго зрабіць.

Што мы маем цяпер у Менску, сталіцы ордэнаноснай Рэспублікі?

Мы маем 47 няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ, з іх 25 беларускіх, 10 яўрэйскіх, 9 рускіх, дзве польскіх і адна нямецкая. У гэтых школах вучацца дзеці рабочых, калгаснікаў, служачых. У Менску ёсць 7 вышэйшых навучальных устаноў і 13 тэхніку-

маў, у якіх вучыцца 14 тысяч студэнтаў. Усяго ў школах Менска вучыцца 42,5 тыс. моладзі і дзяцей ў 10 раз больш як ў дарэволюцыйным, старым Менску.

Дзякуючы клопатам партыі і ўрада ў Менску пабудавана 12 сталінскіх школ. Трэба сказаць, што па сваёй плошчы яны роўны плошчы старых 34 школ. Ніякага параўнання не можа быць паміж Сталінскімі і старымі школамі. У новых школах— добрыя, светлыя, прасторныя класы.

Таварышы, наша совецкая дзетвара, наша моладзь—самая шчаслівая ў свеце. Наша дзетвара, наша моладзь мае палацы-школы, палацы ВНУ, палацы піонераў. І ў нас, у Менску, ёсць палац піонераў—падарунак ЦК КП(б)Б і асабіста т. Гікало. У ім ёсць тэхнічныя станцыі, розныя дзіцячыя гурткі, якія разгортваюць пазашкольную работу.

Нашы дзеці, нашы піонеры мараць стаць героямі Совецкага Саюза. Мы ўсе іх з вамі сёння бачылі, гэтых шчаслівых дзяцей. Яны хочуць быць Чкалавымі, Байдуковымі, Беляковымі, Стаханавымі, Дземчэнкамі—і яны будуць імі, яны будуць імі таму, што яны наша змена, што аб іх клапаціцца партыя і любімы **Сталін.**

Дзякуючы правільнаму правядзенню генеральнай лініі нашай партыі і ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, наша совецкая школа і совецкі настаўнік стаяць на такой вышыні, на якой не стаялі, не стаяць і не можа стаяць ні адна школа, ні адзін настаўнік у капіталістычных краінах.

Усе гэтыя дасягненні мы маем дзякуючы штодзённым клопатам партыі і любімага нашага **Сталіна** аб школе, аб настаўніку. Гэтыя клопаты бачны ва ўсіх пастановах партыі і ўрада аб школе і настаўніку і асабліва ў апошніх гістарычных пастановах.

Таварышы, мы жывём у краіне соцыялізма, у нашай прыгожай соцыялістычнай радзіме. І правільна сёння нашы піонеры гаварылі аб нашай радзіме словамі песні:

Широка страна моя родная,
Много в ней лесов, полей и рек.
Я другой такой страны не знаю,
Где так вольно дышит человек.

Таварышы, не хапае слоў, каб выразіць творцу Канстытуцыі, любімаму вялікаму **Сталіну** нашы глыбокія пачуцці.

Дзякуй таварышу Сталіну за тое прыгожае, шчаслівае, добрае жыццё, якім мы цяпер жывём (апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня). Таварышы, паступіла прапанова паслаць прывітанне народам брацкіх совецкіх рэспублік (апладысменты).

Слова для прапановы мае старшыня Гомельскага гарадскога совета т. Малашонак (апладысменты).

**Малашонак** (чытае).

## ПРЫВІТАННЕ XII НАДЗВЫЧАЙНАГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА СОВЕТАЎ ДА ЎСІХ БРАЦКІХ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК СССР.

Расійскай Совецкай Федэратыўнай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Азербайджанскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Грузінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Армянскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Туркменскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Узбекскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Таджыкскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Казахскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Кіргізскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

Лепшыя сыны і дочкі беларускага народу, з'ехаўшыся на свой XII Ўсебеларускі Надзвычайны З'езд Советаў, каб падвесці вынікі ўсенароднаму абмеркаванню вялікай хартыі працоўных— сталінскай Канстытуцыі, шлюць сваё палкае прывітанне брацкім рэспублікам, якія складаюць наш вялікі Совецкі Саюз.

Трыумфальная перамога ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі прывяла да нябачанага росквіту гаспадаркі і культуры ўдвая прыгнечаных раней народаў. З вялікай любоўю і радасцю погляды вызваленых народаў накіраваны да рускага пролетарыята, да непераможнай Чырвонай арміі, падтрымаўшых акраінныя рэспублікі ў іх цяжкай барацьбе з каланізатарамі і нацыяналістамі.

Велічны будынак сталінскай Канстытуцыі ўзнік на гераічных перамогах пролетарыята Совецкага Саюза, які стаў гаспадаром свайго лёсу, на гіганцкім росце матэрыяльнай і духоўнай магутнасці Совецкага Саюза, на нечуваным эканамічным і культурным уздыме народаў, якія нядаўна былі аб'ектамі каланіяльнага прыгнечання і эксплаатацыі.

Вызваленыя Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй шматлікія народы і нацыянальнасці Совецкага Саюза з жудасцю ўспамінаюць мінуўшыя чорныя дні панавання і эксплаатацыі царскіх прыслужнікаў, памешчыкаў, фабрыкантаў і нацыяналістаў.

Але няма больш звароту да мінулага ў нашай краіне. Аб гэтым чорным мінулым напамінаюць нам зараз жудасці, нацыянальнае заняволенне, пагромы і зверствы, учыняемыя фашыстамі над працоўнымі ў капіталістычных краінах.

Сталінская Канстытуцыя як маяк указвае ўсім заняволеным, прыгнечаным і эксплаатуемым шлях са[illegible]аўднай свабоды і роўнасці ўсіх нацый, усіх народаў, усіх ра[illegible].

Сталінская Канстытуцыя ёсць самая дэмакратычная ў свеце Канстытуцыя, бо яна дае магчымасць усім народам, нават самым малым і малалікім, прымаць удзел у кіраўніцтве краінай.

Увесь працоўны народ Совецкага Саюза ахоплен адным незгасальным пафасам большэвіцкай творчасці, адным імкненнем і воляй давесці да канца справу комунізма.

Рускія і украінцы, беларусы і грузіны, азербайджанцы і армяне, узбекі і туркмены, казахі і таджыкі, кіргізы і іншыя народы нашага неабдымнага Саюза—усе яны сустракаюць прывет і ласку таварышоў па працы, усе яны ахоплены адзіным пачуццём адданасці сваёй радзіме і бязмежнай любоўю да творца Совецкага Саюза і яго асноўнага закона—Канстытуцыі, да друга і настаўніка ўсіх прыгнечаных і заняволеных—таварыша Сталіна.

Няхай жыве несакрушальная дружба, адзінства і брацтва ўсіх народаў Совецкага Саюза!

Няхай жыве Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, утвораны на аснове добраахвольнага аб'яднання роўнапраўных совецкіх соцыялістычных рэспублік!

Няхай жыве вялікі творца Канстытуцыі, геній і правадыр вызваленага чалавецтва таварыш **Сталін!**

(Бурныя апладысменты. Галасы з месц: «Няхай жыве непарушная дружба народаў Совецкага Саюза» «Няхай жыве таварыш **Сталін!)**

**Жуковіч** (старшыня) Дазвольце, таварышы, Вашы апладысменты лічыць за аднагалоснае прыняццё прывітання (Ізноў бура апладысментаў).

Ад Сакратарыята слова мае тав. Манаеў.

**Манаеў**—На імя З'езда паступіла некалькі прывітальных тэлеграм. Ад асабовага складу лінейнага карабля «Парыжская комуна».

Менск. Старшыні ЦВК БССР Чэрвякову.

Асабовы склад лінкора «Парыжская комуна» шле палкае чырвонафлоцкае прывітанне Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў, які сабраўся для абмеркавання найвялікшага праекта сталінскай Канстытуцыі і ў Вашай асобе вітаем гераічны народ Беларусі. Няхай жыве тварэц новай Канстытуцыі—вялікі **Сталін.**

Камандзір лінкора «Парыжская комуна»—капітан I ранга **Пуга.**

Ваенком лінкора «Парыжская комуна»—палкавы камісар **Бакулін** (апладысменты).

Таксама паступілі прывітальныя тэлеграмы ад рабочых і служачых племгаса «Крынкі» і калгаса «Чырвоная паляна» Дубровенскага раёна (апладысменты).

Ёсць прапанова гэтыя тэлеграмы прылажыць да пратаколу з'езда.

**Жуковіч** (старшыня) На гэтым пасяджэнне з'езда зачыняецца.

**Пасяджэнне зачыняецца**

*Рэдакцыйная камісія З'езда*
*Адказны рэдактар Н. В. КАЗЮК.*

Зак № 1235. 1000 экз. Галоўлітбел № 5458.

Друкарня імя Сталіна. Менск.

